# НІВА

Год выдання V
№ 37 (237)
11 ВЕРАСНЯ 1960
БЕЛАСТОК
Цана 60 гр.

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА




Дыспетчар службы руху аэрапорта пілот - спартсмен Мінскага аэраклуба Серафіма Герасіменка.
Глядзі: фотарэпартаж «Блакітныя дарогі Мінска», стар. 3.

## У КРАІНЕ МАЎЧАННЯ

Доктар Гебельс крычаў на ўвесь свет: «Мы за мір! Нацыяналсацыялістычная Германія адстойвала і заўсёды будзе адстойваць міралюбівыя намаганні!»

За міністрам прапаганды, нага ў нагу, ішоў міністр замежных спраў Іахім фон Рібентроп.

Адначасова генералы ў сваіх берлінскіх кабінетах апрацоўвалі планы сусветнай агрэсіі, а фюрэр Адольф Гітлер, уверыўшы ў сваё «прызначэнне», марыў аб тысячагадовай германскай імперыі.

Але кат, якому няма роўнага ў сусветнай гісторыі, хваробліва баяўся смерці. Дзеля забеспячэння сваёй галавы, загадваў будаваць сабе бункеры-крэпасці. Яшчэ да вайны на тэрыторыі самой Германіі па яго загаду пабудаваны тры гэткія крэпасці: у Бэртэсгагене, Абэрзальцбергу і ў Цігенбургу. Былі гэта галоўныя кватэры фюрэра на выпадак ваенных дзеянняў на заходнім фронце.

### ДОКТАР «СМЕРЦЬ»

Аднак джала гітлераўскай экспансіі было накіроўвана ў першую чаргу на ўсход. І там фюрэр жадаў мець сваю базу. Марыў аб гэтым ужо даўно. Яшчэ ў 1936 г. доктар тэхнічных навук італьянец Тод (што па-нямецку азначае — «смерць») атрымаў тайны заказ ад нямецкіх улад на апрацаванне планаў галоўнай кватэры на ўсходняй тэрыторыі. Доктар Тод меў ужо за сабой вялікі вопыт. Пабудаваў ён для немцаў не адзін ваенны аб'ект. За новы заказ узяўся з вялікім энтузіязмам. Крэпасць мела быць так разлічана, каб самыя магутныя сродкі, якія тады знала ваенная тэхніка, не змаглі яе парушыць.

Для пабудовы выбралі халмістую раўніну, паросшую густым мешаным лесам сярод шматлікіх азёр на тэрыторыі Ўсходняй Прусіі каля Кентшына (Зараз Ольштынскае ваяводства). Пабудова пачалася ў 1939 г.

### НА КРЫВІ І КАСЦЯХ

Гітлераўскі штаб і асабіста сам фюрэр дамагаліся як найхутчэйшага заканчэння працы. Безупыннымі патокамі амаль з цэлай Еўропы, эшалон за эшалонам, плылі да Кентшына патрэбныя матэрыялы, а разам з імі ў вагонах, закратаваных калючым дротам, ехалі ваеннапалонныя.

Няшчасныя людзі! Не ведалі і не маглі ведаць, які лёс рыхтуюць ім гітлераўскія палачы. Працавалі яны групамі па дзве тысячы. Праца ішла безупынна. Ваеннапалонных дапускалі да працы толькі на адным вызначаным участку. Аднак немцам гэтага было мала. Паводле прынцыпу, што «толькі мёртвыя маўчаць заўсёды», ваеннапалонных, якія канчалі працу на вызначаным ім участку, вывозілі ў крэматорыі. На іх месца прыходзіла новая група на новы ўчастак, і так паўтаралася ўсё аж да заканчэння пабудовы. Гітлераўцы не пашкадавалі нават сваіх, нямецкіх рабочых, тэхнікаў і інжынераў, якім давялося будаваць гняздо свайму фюрэру. Каля трыццаці тысяч людзей загінула толькі таму, што фюрэр сам баяўся смерці.



Васьмімятровыя слаі жалеза і бетону ахоўвалі галовы варвараў, якія задумалі заваяваць свет. Гэткіх цяжкіх бункераў было шэсць, але ўсіх пабудоў налічвалася каля ста.

### КРАІНА МАЎЧАННЯ

Да аховы і абслугоўвання «Вольфшанцэ» — «воўчай ямы», — як сам Гітлер назваў сваё гняздо, выбраны былі найахвярнейшыя эсэсманы. Сістэма аховы падзелена была на тры зоны, якія цэлымі кольцамі акружалі ўсю плошчу. Кожная зона

(Працяг на стар. 4)

## НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

### Што з помнікам КАСТУСЮ КАЛІНОЎСКАМУ?

У сувязі з другой гадавінай утварэння арганізацыйнага Камітэта пабудовы дома - помніка ў Беластоку ў гонар барацьбіта за свабоду і грамадскую справядлівасць Кастуся Каліноўскага мы звярнуліся да скарбніка Камітэта Міхася Баравіка, з некалькімі пытаннямі.

**— Можа не будзем прыпамінаць нашым чытачам гісторыю ўзнікнення ініцыятывы і паклікання да дзейнасці грамадскага Камітэта пабудовы дома - помніка ў гонар К. Каліноўскага, а лепш раскажыце нам аб дзейнасці Камітэта, пра яго дасягненні на працягу двух гадоў, бо гэтае найбольш цікавіць нашых чытачоў.**

**Якія заданні паставіў перад сабой Камітэт на першым пасяджэнні?**

— Як вядома, Кастусь Каліноўскі нарадзіўся і правёў частку свайго жыцця ў Мастаўлянах, на Беласточчыне. Перадусім мы вырашылі зрабіць намаганні, каб у Мастаўлянах «пакінуць след» яго жыцця. У дзень святкавання пятнаццацігоддзя Польскай Народнай Рэспублікі, 22-га ліпеня мінулага года, у Мастаўлянах адбылася ўрачыстасць адкрыцця мемарыяльнай дошкі і прысвоена мясцовай школе імя Кастуся Каліноўскага. Затым у г. Беластоку, дзе выдаваў Каліноўскі «Мужыцкую праўду», перайменавана вуліцу Новасасновую на вул. ім. К. Каліноўскага. Самым галоўным аднак жа заданнем нашага Камітэта было пакласці ўсе намаганні, каб у Беластоку пабудаваць дом - помнік ім. К. Каліноўскага.

**— Хто павінен быць галоўным, так сказаць, фундатарам пабудовы, якая, зразумела, патрабуе шмат грошай?**

— Перадусім грамадскасць Беласточчыны. Бо хто ж іншы, як не мы, насельніцтва нашага ваяводства, павінны ўшанаваць памяць свайго героя, якім ганарымся і які праславіў нашую зямлю. Супольна ўшанаваць яго памяць і супольнымі сіламі пабудаваць помнік — вось мэта, якая павінна быць у думцы і дзейнасці кожнага свядомага грамадзяніна. Таму мы звярнуліся да грамадскасці Беласточчыны з заклікам збору грошай і наогул дапамогі ў гэтым важным мерапрыемстве.

**— Якія вынікі? Будзьце добры падаць нашым чытачам некалькі цыфравых дадзеных.**

— Трэба сказаць, што агульны ўклад насельніцтва

(Працяг на стар. 2)

## ПАРАЗІТ

Пяць кіламетраў за Бельскам Падляшскім знаходзіцца хутар Шавілі. Некалькі хат, прыкрытых зялёнымі шапкамі дрэў, раскінулася тут сярод раўнінных палёў, у глухім кутку, дзе рэдка загляне падарожнік. Спакойна і ціха на хутары Шавілі.

Жыве тут грамадзянін Хведар Карпюк. Жыллё ў яго дрэннае. Старая, уросшая ў зямлю хатка пад драхлай страхой ледзь глядзіць на белы свет маленькімі бруднымі вокнамі; гумно і хлявы стаяць быццам ветрам падперты.

Чаму? Ці аж так бедна жыве Хведар Карпюк? Не, справа так не прадстаўляецца. Ён, бадай што, найбагацейшы гаспадар у наваколлі, мае каля 19 гектараў высокаўраджайнай зямлі. І сям'я ў яго невялікая. Выдаўшы некалькі гадоў таму назад адзіную дачку замуж у Бельск, астаўся ў Шавілях толькі з жонкай.

У чым тады справа?

### «СУСЕДСКАЯ ДАПАМОГА»

Маючы гэткую гаспадарку, як у Хведара Карпюка, трэба толькі аднаго зямельнага налогу (без абавязковых паставак і складчын ПЗУ) заплаціць штогод дзяржаве амаль 12 тысяч злотых. Сума не малая для кішэні ўласніка гаспадаркі. Трэба толькі знайсці спосаб, каб яна там засталася.

Быў 1955 г. Карпюк напружана пачаў варочаць мазгамі.

Верным яго сабутэльнікам быў Павел Наказнік з суседняга хутара Агароднікі. Да яго і звярнуўся Карпюк з просьбай аб «суседскую дапамогу». Доўгіх спрэчак не было. Хведар Карпюк напісаў умову, паводле якой Павел Наказнік бярэ ў «арэнду» ад Карпюка 7 гектараў ворнай зямлі і абавязваецца аплочваць за гэтую плошчу падаткі. Старшыня ГРН у Катлах пацвердзіў гэтую ўмову дзяржаўнай пячаткай, а каб «дакумент» быў больш правамоцны ўсе разам падмацавалі яго некалькімі бутэлькамі «моцнай».

### ТАЙНЫ «РЭЕСТРА ЗЯМЛІ»

У маіх руках «Рэестр грунтаў ГРН (былай) Катлы». Пад нумарам 576 запісаны грамадзянін Павел Наказнік. Тут знаходзім пацвярджэнне павятовай установай гэтага, што было на «грамадскім узроўню» замацавана чаркамі «моцнай». Рэестр інфармуе: «Наказнік Павел арэндуе 7 га зямельных угоддзяў». Звяртае ўвагу факт, што запіс гэты (у дакуменце вялікай важнасці!) зроблены звычайным алавіком, а той, хто ўпісаў яго ў «Рэестр грунтаў», не падаў свайго прозвішча, не пацвердзіў яго правамоцтва сваім подпісам і не адзначыў, калі запіс быў зроблены. Не гледзячы на тое, запіс абавязваў падаткаплацельшчыка і

(Працяг на стар. 5)

## Карэспандэнцыя з БССР

З кожным годам усё больш і больш уваходзіць у жыццё паветраны транспарт. Цяпер абласныя цэнтры рэспублікі звязаны паветранымі дарогамі з усімі аддаленымі раёнамі. У абласных гарадах ёсць свае аэрапорты, адкуль можна паветраным шляхам трапіць у любую рэспубліку Савецкага Саюза. Штодзень адсюль па некалькі разоў курсуюць самалёты ў Мінск — вузлавы цэнтр блакітных дарог Беларусі.

# БЛАКІТНЫЯ ДАРОГІ МІНСКА



Тут на адной з прыгожых ускраін горада раскінуўся аэрапорт. Да аэравакзала праз кожныя пяць — тры мінуты прыбываюць тралейбусы і аўтобусы. Пасажыры, выходзячы з іх, знікаюць у будынку, аздобленым строгімі калонамі з фігурнай лепкай.



Да адлёту самалёта тут можна добра адпачыць, пачытаць журналы і газеты. У чакальнай зале працуе кіёск, дзе заўсёды ёсць вялікі выбар перыядычнай літаратуры. Замежныя людзі могуць купіць газету на роднай мове.



Не забыты і маленькія пасажыры. Ім прызначаны спецыяльныя пакой маці і дзіцяці. Ён добра абсталяваны.



Да паслуг транзітных пасажыраў — першакласная гасцініца з усімі выгодамі. За параўнаўча невялікую плату тут можна добра адпачыць і ў належныя тэрміны прадаўжаць палёт.

Так, мінчане заслужана ганарацца сваім цудоўным аэрапортам. Нездарма значная частка пасажыраў аддае перавагу паветранаму транспарту. З Мінска паветраным шляхам можна за кароткі час трапіць ва ўсе гарады Савецкага Саюза. Масква, Ленінград, Кіеў, Адэса, Рыга, Сімферопаль... На 35 трасах курсуюць днём і ноччу камфартабельныя самалёты. Штодзённа перавозяць яны тысячы пасажыраў.



А якія старанныя людзі працуюць на паветраных трасах. Сярод пілотаў Мінскага аэрапорта ёсць нямала такіх, хто ўжо мае за плячыма не адну тысячу кіламетраў. Першым з іх хочацца назваць камандзіра карабля Аляксея Шэўчука. (На здымку). Ён выдатнік аэрафлоту. 26 год Аляксей баразніць паветраныя прасторы Савецкага Саюза.

За гэты час ён правёў у паветры больш 17 тысяч гадзін і налётаў звыш трох мільёнаў кіламетраў.

Але не толькі пасажыраў перавозіць Мінскі аэрапорт. Сюды штодзень ідуць паветраным шляхам розныя грузы.



Бортправадніца Лідзія Іванава абслугоўвае пасажыраў у самалёце.



Калі да калектыву Мінскага аэрапорта дайшла вестка аб разгортванні ў краіне спаборніцтва за званне калектыву камуністычнай працы, першым уключыўся ў гэтую барацьбу экіпаж Марата Лермана. Экіпаж Лермана — адзін з лепшых у аэрапорце. Нядаўна яму прысвоена ганаровае званне калектыву камуністычнай працы.

У Мінскім аэрапорце ёсць і санітарная авіяцыя, гатовая да вылёту ў кожную хвіліну, пры любым надвор'і і ў самыя далёкія куткі Беларусі. Больш за ўсё даводзіцца лётаць пілоту Мікалаю Ахромаву (на здымку). Крылы яго «Як—12» многа разоў даставілі лекара да цяжка хворага ў самую крытычную хвіліну.

З кожным годам павялічваецца лік паветраных дарог Мінскага аэрапорта.



**СХЕМА РАЗМЯШЧЭННЯ «ВОЛЬФШАНЦЭ» ПАЯСНЕННЕ.**




1) Купальня і пляж Гітлера
2) Штучны басейн
3) Завалены ўваход да падзямелля
4) Купал уваходу ў бункер Гітлера
5) Штабныя бункеры і адміністрацыйныя кватэры
6) Уваход да падзямелля з чыгуначнай станцыі.
7) Палявы аэрадром
8) Узмоцнены бункер з буйнакаліберньімі зеніткамі.
9) Развалiны дачы Эвы Браун — каханкі Гітлера.
10) Варонка ад бомбы, якую англійскія лётчыкі кінулі на «Вольфшанцэ» падчас налёту ў 1944 г.
11) Галоўная радыёстанцыя
12) Радыёстанцыі для падслухівання.
13) Узгорак, на якім знаходзіцца ўкрытая воданапорная вежа.

# ПАРАЗІТ

(Працяг са стар. 1)

вызначаў размер падаткаў. Хведар Карпюк запісаны ў «Рэестры» ў двух месцах, пад нумарамі 232 і 575. Першы запіс датычыць стану яго гаспадаркі перад здачай у «арэнду» 7 га. Наказніку, а другі — пасля гэтага.

Параўноўваючы абодва запісы можна сцвердзіць, што папраўкі адносна стану ўладання ў гаспадарцы Хведара Карпюка не абмяжоўваліся толькі да сямі гектараў, якія ён, мабыць, аддаў у арэнду, але пры гэтай нагодзе патанула дзесьці 3.62 га земляных угоддзяў. Дзе? Ці часам не ў «горкапякучай»?

Недапушчальна блытаніна шыта так грубымі ніткамі, што сама лезе ў вочы. Тымчасам у Сельгасаддзеле ППРН у Бельску Падляшскім праз чатыры гады ніхто не звярнуў увагі на гэтае. Ніхто з працаўнікоў гэтай дзяржаўнай установы не мог мне растлумачыць калі, хто і на якой падставе зрабіў гэтыя папраўкі, у выніку якіх стан уладання Хведара Карпюка «зменшыўся» больш за чатыры разы.

На гэтым аднак справа яшчэ не канчаецца.

## «ДОБРЫ СУСЕД»?

Неўзабаве пасля транзакцыі з Карпюком, Наказнік быў прыгавораны судом на шматгадовае зняволенне за забойства. У хаце асталася жонка Ольга і трое малых дзяцей. Сваёй зямлі ў іх амаль восем гектараў. Адной хворай жанчыне гаспадарыць на гэтай вялікай плошчы і дакладна справіцца з абавязкамі перад дзяржавай зусім не лёгка. Навошта тады ёй яшчэ арэнда? Ольга, урэшце, ніколі ёю і не карысталася. Толькі часам Карпюк даваў ёй кусок поля пад лён, ці воз сена. Сцвярджае гэтае Ольга, яе суседзі, а нават сам Карпюк. Ён жа не хацеў мець менш зямлі, а толькі хацеў плаціць меншыя падаткі!

У сувязі са зняволеннем мужа, Ольга патрабавала шмат грошай. Карпюк ніколі не адказваў — пазычаў ёй і нават не патрабаваў, каб яна яму зварочвала доўг. Гаварыў ёй: «Ты лепш гэтымі грашыма заплаці падаткі, якія ідуць на арэндную частку зямлі». І Ольга плаціла, а зямлёю карыстаўся Карпюк.

Яшчэ больш бедна, чым Ольга Наказнік, жыве на хутары Шавілі Яўгенія Давідзюк. У яе пяцёра дзяцей. Жыве яна сама, без мужа.

Хведар Карпюк сваім багатым «клапатлівым» крылом закрануў і гэтую бедную суседку. Для гэтых жанчын меў ён шырока адкрытае сэрца. Пазычаў ім хлеб і збожжа, даваў каня да працы і сам ішоў да іх з плугам ці касою.

Адкуль у Карпюка гэткая клапатлівасць аб людзях? Нажаль, не вынікала яна са спачування бедным жанчынам. Карпюк не мог толькі з жонкай дагледзіць звыш пятнаццаці гектаровую гаспадарку. Яму патрэбны былі да працы рукі гэтых жанчын. Напрыклад, за адзін дзень касьбы патрабаваў ад Ольгі пяць дзён адработку пры ўборцы сена, а за прывоз фуры дроў трэба было адпрацаваць цэлы дзень.

Вось якой з'яўляецца турбота багатага, «добрага» суседа аб бедных жанчынах.

## «ДУРНЫЯ» ПЛАЦЯЦЬ ПАДАТКІ

Як вош у барадзе жыве Хведар Карпюк на хутары Шавілі. Ад 1946 г. дагэтуль заплаціў ён дзяржаве ўсяго 4.133 зл. падаткаў. Узнікае тады пытанне: колькі павінен быў заплаціць, маючы 18.76 га зямлі? Паводле зводак Фінансавага аддзела ў Бельску завінавачанасць яго перад дзяржавай раўняецца 53.511.69 злотых. Гэта залегласці ў сельгаспадатках. Сума не малая, але назбіралася яна на працягу чатырнаццаці гадоў. Мабыць, ён мяркаваў: «Няхай дурныя плацяць падаткі, а я да іх ліку не належу».

Горкая праўда, але аказваецца, што Карпюк не зусім памыліўся ў сваіх меркаваннях. На аснове пастановы Эканамічнага Камітэта Рады Міністраў № 237, ад 17 ліпеня 1956 года, пагашана яму 46 715.69 зл. падаткавых даўгоў, якія назбіраліся на працягу 1946 — 1955 г. г.

За перыяд 1956 — 1960 г.

(Працяг на стар. 7)

# КУМЦЫ КРЭТУ

сцэнка

КАНАПЕЛЬКА (у яго і сапраўды вочы на лоб палезлі). Што?! Што вы сказалі?

ЛІШАЙЧЫК (узрадаваўся). Ага, цяпер дайшло? Нарэшце, дайшло - такі і да вас, паважаны таварыш Канапелька.

КАНАПЕЛЬКА. Нахабны паклёп! (Наступае на шаптуна). Плёткі распускаеце тут! (Грозна). Слухайце, Лішайчык... Тое, што вы сказалі...

ЛІШАЙЧЫК... (спалохана). Тсс... Я нічога не сказаў. Ды цішэй жа вы! Чаго так расшумеліся? Дай жа Божа, каб гэта была няпраўда (зашаптаў). А што, калі ўсё-такі гэта не мана? Без агню ж і дыму не бывае.

КАНАПЕЛЬКА. А навошта ж вы смуродны гэты дым людзям у вочы пускаеце?

ЛІШАЙЧЫК. Я? (Спалохана.) Улічыце, таварыш Канапелька, нічога такога-гэткага я вам і не казаў.

КАНАПЕЛЬКА. Нічога? Няўжо гэта мне прытрызнілася?

ЛІШАЙЧЫК. Таварыш Канапелька, таварыш Канапелька! Я і ведаць нічога не ведаю! Ды, зрэшты я вам сказаў тое, што пачуў ад другіх.

КАНАПЕЛЬКА. Ад каго?

ЛІШАЙЧЫК. Ад Крывашэі.

КАНАПЕЛЬКА. Цікава. Ці-і-ікава! (Наступае на яго).

ЛІШАЙЧЫК (спалохаўся). Аднак прашу разумець мяне так. І Крывашэя тут таксама ні прычым. Яму Кругляк сказаў. Але і Кругляк... Таварыш Канапелька! Я ж толькі вам! Другому — ні за якія грошы не сказаў бы. Ні-ні. Далібог!

КАНАПЕЛЬКА (з іроніяй). Ха-ха! Толькі мне! Аб чым жа вы шапталі на вушка толькі Маланцы?

ЛІШАЙЧЫК. Я-а-а?

КАНАПЕЛЬКА. А хто ж, я?

ЛІШАЙЧЫК. (ледзь не плача). Нічога такога я ёй не казаў... Пра гэта...

КАНАПЕЛЬКА. «Пра гэта» мабыць яшчэ і не паспелі. Але хто перад ёю выхваляўся, што вам, — толькі вам! — даверылі адпраўку нейкіх важнейшых і нават сакрэтных грузаў у адзін, як вы казалі, стратэгічны пункт. І нават станцыю адпраўлення назвалі.

ЛІШАЙЧЫК (зусім разгубіўся). Я ж толькі ёй...

КАНАПЕЛЬКА. Ага, «толькі ёй!» А яна толькі Залатусе, а Залатуха толькі Пятрунічу, а Пятруніч толькі Балбатухінскай, а тая — чортавай бабульцы... Адным словам, «кума кумцы па сакрэту, а кумка — усяму свету»!

ЛІШАЙЧЫК А я ім і ні кум і ні сват! Ды, зрэшты, за што купіў, за тое і прадаў.

КАНАПЕЛЬКА. Аказваецца, танна можна такіх купіць, ды і... прадаць...

ЛІШАЙЧЫК (зусім раскіс). Таварыш Канапелька, вельмі прашу вас не рабіць з гэтага ніякага шуму. Няхай застанецца паміж намі.

КАНАПЕЛЬКА. Што «паміж намі»? Самі ж казалі: «аб гэтым сакрэце нават у аўтобусах гамоняць».

ЛІШАЙЧЫК. Ну, дык няхай сабе гамоняць, але я тут ні прычым, разумееце, таварыш Канапелька?

КАНАПЕЛЬКА. Разумею, цяпер я ўжо ўсё разумею.

ЛІШАЙЧЫК (вылупіў вочы і падаецца назад). Што вы разумееце? Ды што вы такое разумееце? (Выцірае хусткай лоб). Я вас прашу...

КАНАПЕЛЬКА. А што вы думаеце, Лішайчык! Пра гэтую вашу «навіну» я нікому — ані-ні! Ні слова!

ЛІШАЙЧЫК (відаць, аблягло ад сэрца). От жа дзякую! Век не забуду. Значыць, нікому?

КАНАПЕЛЬКА. А каму гэта цікава слухаць, аб чым звягаюць балбатуны і плеткары ўсялякія. Але і ў мяне ёсць для вас строгі сакрэт? Ці чулі вы? Не? Дык дайце я на вушка скажу, толькі вам! (Гучны шэпт.) С-слухайце, с-скора адбудзецца с-сход рабочых і інжынерна - тэхнічнага персаналу. Я вам нават магу сказаць парадак дня — вельмі важнае пытанне...

ЛІШАЙЧЫК (гарыць ад нецярпення). Якое? С-скажыце!

КАНАПЕЛЬКА. Пераключэнне нашага завода...

ЛІШАЙЧЫК (аж страпянуўся). Значыць, усё-такі пераключаюць?

КАНАПЕЛЬКА. Пераключаюць!.. На выпуск новай прадукцыі на аснове ўкаранення новых, больш прагрэсіўных метадаў працы.

ЛІШАЙЧЫК. (Зноў разгубіўся). Э-э-э... (Схамянуўся). Вось гэта дык навіна!.. (лісліва). Правільна! Але навошта вам так хваляваццa! Ды не варта, таварыш Канапелька, і ўвагі на іх звяртаць.

КАНАПЕЛЬКА. Варта, вельмі варта. На гэтую з'яву трэба звярнуць увагу ўсіх.

ЛІШАЙЧЫК (з жахам). Усіх?

КАНАПЕЛЬКА (да публікі). Ці чулі вы? (Рэзка павярнуўся і цвёрда крочыць за кулісы.) Усіх!

ЛІШАЙЧЫК (тэпае за ім.) Таварыш Канапелька! Таварыш Канапелька! Слухайце, што я вам скажу... (махнуў рукой.) І слухаць не хоча! (За сцэнай.) Ды вы паслухайце...

ВЯДУЧЫ (выйшаў на авансцэну.) Ці вы чулі? (Усміхаецца.) І што вы думаеце, сябры? Таварыш Канапелька выступіў-такі на сходзе і звярнуў увагу ўсіх прысутных. Усім ён адкрыў вельмі важны сакрэт, з якога даведаліся, што завёўся ў калектыве гэтакі Лішайчык, ужо занадта прыліплівы Лішайчык і з'яўляецца ён небяспечным разносчыкам чутак і такой заразы, як пляткарства.

Дык скажыце, сябры, паклаўшы руку на сэрца: сярод вас такія лішайчыкі выпадкам не сустракаюцца?

**Л. ВІРНЯ**

 

# НЕПАРАЗУМЕННЕ

У старога Мацея былі дзве слабасці: дачка-дзябёлая дзеўка і паўрасавая кабыла.

У гэты дзень Мацей меў двух наведвальнікаў. Спачатку прыйшоў Панкрат. Ён адразу прыступіў да справы:

— Чуў, быццам прадаеш кабылу.

— Прадаю, дванаццаць кавалкаў дасі, будзе твая, — адказаў Мацей.

— Э... дванаццаць!.. — запярэчыў Панкрат. — Скуру дзярэш, Мацей. Вось у Аполі за восем кавалкаў каралеўскага рысака прадаюць. А ў Катавіцах і Бытомі нават забаронена ездзіць па горадзе коньмі. Цяпер трактар у модзе, а коні ідуць у адстаўку.

— А гной табе трактар дасць? — ядавіта спытаў Мацей. — А мо' ты і на кірмаш трактарам паедзеш? Мая кабыла праз тры месяцы жарабя дасць. Заплоціш за аднаго каня, а купляеш, значыць, два.

— Апольскую цану дам, — сказаў Панкрат.

— Тады дуй у Аполе, там і купіш, — адказаў Мацей.

Панкрат памяў у руках шапку і пайшоў.

Неўзабаве да Мацея прыйшоў Максім, сын млынара. Прывітаўся, сеў на акрайчыну лаўкі і нясмела пачаў:

— Дзядзьку Мацей, у вас тавар, а я купец, вырашыў зайсці, мо' дагаворымся.

— Для сябе дагаварвацца прыйшоў, ці для бацькі? — спытаў Мацей.

— Для сябе... Маю чатыры гектары пад лесам... кідаю млын!..

— Дрэнна, як дзеці сварку заводзяць з бацькамі.

— Я не сваруся, толькі не магу глядзець, як мачаха запрагла бацьку, нібы каня... Мо' дагаворымся, дзядзьку Мацей?

— Чаму не дагаворымся, дванаццаць кавалкаў дасі, і хоць у гэтай хвіліне едзь ёю дахаты.

Максім пачырванеў і скромна заўважыў:

— Ездзіць на ёй я не збіраюся, жаночы пол раз пакрыўдзіш — век не забудзе...

Мацей не даў Максіму закончыць:

— Яна спакойная, — пачаў угаварваць, — зубы та ты бачыў?

— Бачыў, пазайздросціць можна.

—Эгэ, а ногі? Стройныя, моцныя, уся сіла ў гэтых нагах, хочаш пакажу, — запрапанаваў Мацей.

— Ну навошта, ці я вам не веру, — адазваўся засаромлены Максім.

— А крыж які гладкі, да костачкі не дабярэшся, — працягваў Мацей. — Ну а цана цвёрдая, як дзяржаўная, і сотні не ўступлю. Не адзін ужо адыходзіў па гэтай прычыне.

— То і іншыя прыходзілі? — нейкім дзіўным голасам спытаў Максім.

— А ты думаеш, што толькі ты аматар на яе? Яна ў мяне вядомая на ўсю аколіцу, ад Бельска да Гайнаўкі яе знаюць.

Максім неспакойна закруціўся на месцы, а Мацей працягваў далей:

— Да таго ж, за тры месяцы бясплатны дадатак табе падарыць — жарэбчыка будзеш мець... Ды што з табою? Збялеў цэлы, мо' жывот?! Папі вады, лягчэй будзе.

— Не трэба... Сем тысяч маю, рэшту ў бацькі пазычу, — выціснуў Максім.

— Мы людзі свае, хлопец ты салідны, можаш зараз жа браць кабылу.

У Максіма вочы вылязлі, як у рака:

— Я... якая кабыла? Я ў сваты прыйшоў!

— Дурань! З гэтым ідзі да дачкі. Круціш мне балалайку з кабылай, а аб дачцы гутарка! — закрычаў Мацей.

Грамадзяне мілыя, ды ці ж мала ў нашым жыцці непаразуменняў бывае?

Дзядзька Лявон







### У СКЛЕПЕ

Адзін сельгасгуртковец прыйшоў ў краму.
— Піва ёсць?
— Ёсць.
— Налівай.
Калі піва было наліта раптам ён нешта ўспомніў.
— А ці зніжка для сельгасгуртkоўцаў ёсць?
— Няма.
— Вылівай назад.

**Вася Касцючук**
Тынкоўшчына

### ДЗЕД І СМЕРЦЬ.

Дзед нарубаў дроў і нясе. Нясці было далёка і ён змарыўся. Палажыў дровы і кажа:
— Ах, каб хутчэй смерць прыйшла!
Тут жа прыйшла смерць і кажа:
— Вось і я, чаго табе трэба?
Дзед злякаўся і адказаў:
— Памажы мне дровы падняць.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы - Царкоўныя

### СУСЕДКІ..

Суседкі сядзелі на прызбе і гаварылі:
— Ці варыла ты калі варэнне з яблык?
— А чаму ж не варыла.
— Хіба шмат цукру трэба? Кілаграм на кілаграм?
— А дзе там, многа менш: паўкілаграма цукру на паўкілаграма яблык.

**Вася Садоўскі**
Старое Ляўкова

У СПЁКУ

ЗАСЯДЗЕЎСЯ



ДАЧАКАЎСЯ

# РАХМАНЫ ХАРАКТАР

**КРЫСТЫНА ЖЫВУЛЬСКА**

(ГУМАРЭСКА)

Вацэк не адносіўся да добра выхаваных дзяцей. Можна было б смела, без ніякай рызыкі сцвярджаць зусім адваротнае. Да таго ж гады паглыблялі ў ім тыя рысы, якія ледзь-ледзь праяўляліся ў раннім дзяцінстве. І вось у свае 14 год ён быў ужо ў многіх адносінах закончаным хуліганам.

Сям'я як сям'я, яна доўга не магла прымірыцца з такім дыягнозам. З раніцы і да вечара з розных прычын, якія Вацэк пастаўляў з сапраўднай шчодрасцю, працягваліся нарады пра тое, як папярэдзіць ліха.

— Па сутнасці ў яго рахманы характар, — сцвярджала бабуля. — Толькі ён ніяк не здолее праявіць яго. Калі я ўчора сказала яму, каб перастаў стукаць аб шафу малатком, бо ў мяне, маўляў, баліць галава, — адразу паслухаў.

— Вось цуд, — здзівілася маці Вацэка, — сапраўды адразу паслухаў?

— Амаль што адразу, — удакладніла бабуля.

— Урэшце ў нас ёсць на яго лякарства, — узрадаваліся члены сям'і. Затым яны перайшлі да рэалізацыі новага метаду дзеянняў.

— Вацуня, зрабі ўрокі, бо я адчуваю, што пачынаецца прыступ жаўтухі.

— Як гэты прыступ пачнецца, тады няхай маці пакліча мяне. Я прыбягу паглядзець, які ў маці колер твару — жоўты ці зялёны, — адказаў Вацэк і пабег на панадворак.

— Ён прызвычаіўся ўжо да тваёй жаўтухі, — пракаменціраваў гэтае здарэнне бацька. — Тут трэба прыдумаць нешта новае. Ты выедзеш, а я скажу, што цябе адвезлі ў бальніцу.

Маці не была ў захапленні, але бацька хутка ёй даказаў, што ва ўсёй сям'і яна найбольш прыдатна да ролі хворай.

Знікненнем маці Вацэк зацікавіўся ў такой ступені, што зрабіў арыфметыку.

— Сыноў пускаюць у бальніцу? — спытаў ён.

— Пускаюць, любоў мая, — адказаў вельмі крануты бацька.

— Гэта сіла! Нам з Фэлькам якраз патрэбны белыя халаты. Каб пераапрануцца ў духаў і пужаць вартаўніка з шостага квартала. Лепш за ўсё мы сцягнем іх у гэтай бальніцы.

— А здароўе маці цябе не хвалюе? — спытаў расчараваны бацька.

— Чаму не, няхай папраўляецца. Толькі няхай не ўмешваецца ў мае справы.

Назаўтра Вацэк аб'явіў, што не пойдзе ў школу, бо па-першае, яму не хочацца і, па-другое, настаўнік заалогіі наводзіць сум, як халера.

Бацька вельмі перапалохаўся:

— Уставай, мой даражэнькі, вельмі цябе прашу. Ідзі ў школу, бо бабуля звіхнула сабе нагу.

Вацэк прыадкрыў адно вока:

— Звалілася з лесвіцы?

— Не. Проста пакаўзнулася.

— Шкада, — заўважыў Вацэк. — Было б куды больш смешна, калі б яна звалілася з лесвіцы.

Нага бабулі рабіла сваё ўздзеянне толькі адзін дзень. Ужо назаўтра, пуляючы каштанамі з рагаткі, ён разбіў у двары амаль усе вокны ў кватэрах ніжэйшых паверхаў. Адхваставаў таксама шэраг сваіх малодшых сяброў і сяброўак. Цэлы дзень працягваліся візіты ахвяр і іх бацькоў.

— Па сутнасці ў яго вельмі рахманы характар, растлумачвала ўслых бабуля. Але яна ніяк не здолела дастаткова аргументаваць гэты тэзіс.

Вечарам сям'я вырашыла ўжыць чарговае псіхалагічнае ўздзеянне. На гэты раз ахвярай стаў бацька.

— Тата трапіў пад аўтамашыну, — дрыжачым голасам вымавіла маці. — Цяпер ты адзіны мужчына ў доме. Спадзяюся, што ты возьмешся за розум...

Вацэк прызадумаўся на некалькі хвілін.

— Гэта значыць, што я цяпер сам сабой распараджаюся, так? А што будзе, калі тата вернецца? Я ведаю такіх, што іх машына толькі злёгку кранала.

— Вацэк, — плакала маці праўдзівымі слязьмі. — Няўжо з цябе ніколі не выйдзе чалавека?

— Ужо неўзабаве. Мама, не азірнешся — і станеш бабуляй. Фэлек мне растлумачыў, як гэта робіцца.

Бацька вярнуўся. Маўкліва ўсе прыняліся за абед. Вацэк не дакрануўся да стравы. Раптам ён сказаў:

— Калі ўсе памруць, то з'ем суп.

— І чаму б для дзіцяці не зрабіць гэтую прыемнасць? — зазначыла бабуля. — У яго ж па сутнасці рахманы характар.

**Пераклаў з польскай мовы**
**А. Мальдзіс.**

 